# Тыднёвік Магілёўскі




№ 22 (137) 30 лістапада – 6 сьнежня 2001 г. Кошт 80 руб.


## Курапацкія ночы як працяг гераізму





Фота IREX

*24 лістапада споўнілася два месяцы, як распачалася варта абаронцаў Курапатаў. Моладзь кажа, што будзе працягваць вартаваць магілкі да поўнага заканчэньня будаўнічых працаў, якое прызначанае на красавік.*

*Самазвалы цяпер падвозяць жвір, рабочыя падвышаюць насып дарогі. Пачаліся працы па вырабу трубаў для сьцёку вады, якія будуць накіраваныя пазьней у бок Курапатаў. Існуе тЫм самым небясьпека, што ўвесну каля Крыжа пакутаў узьнікне сапраўднае балота. Навуковец М.Крывальцэвіч спрабаваў дамовіцца, каб будаўнікі зрабілі нейкую дрэнажную сыстэму й накіравалі сьцёкі на прылеглае да Курапатаў поле, але безвынікова.*

*У лягеры валанцёраў рэзка адмоўна паставіліся да намеру будаўнікоў накіраваць вадасьцёк на магілкі. Трэба азначыць, што рабочыя пачалі некуды вывозіць усе паваленыя раней сосны. Абаронцы сьвятога месца лічаць, што гэта робіцца, каб пазбавіць іх дроваў і ня даць магчымасьці вырабляць новыя крыжы. Да таго ж пасьля нядаўніх маразоў усталёўваць крыжы ў прамёрзлую зямлю досыць цяжка. Тым ня менш, новыя крыжы ва ўрочышчы працягваюць паўставаць.*

*Трэба сказаць, што шмат хто з маладых людзей ужо перахварэў з нагоды свайго доўгага знаходжаньня ў лесе. Аднак пасьля выздараўленьня яны вяртаюцца ў Курапаты. Ніколі за два мінулыя месяцы ня сталася так, што ва ўрочышчы нікога з абаронцаў не было – і ўдзень, і ўначы хоць у невялікай колькасьці, але ўвесь час маладыя беларускія патрыёты абаранялі магілы сваіх продкаў.*

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

***P.S.*** *Гэтымі днямі маральны настрой абаронцаў Курапатаў падвысіўся з нагоды адрасаваных ім Івонкай Сурвілай цёплых словаў падтрымкі і ўдзячнасьці. Старшыня Рады БНР у сваім віншаваньні беларусаў з нагоды чарговай гадавіны Слуцкага збройнага чыну справядліва назвала маладых абаронцаў Курапатаў цяперашнімі героямі Бацькаўшчыны.*

## Адказы атрыманыя, яснасьці няма

***Супрацоўнікі незалежнай крычаўскай газэты "Вольны горад" атрымалі зь міжрайпракуратуры адмоўны адказ на сваю просьбу завесьці крымінальную справу супраць мясцовых міліцыянтаў.***

Разбойны напад – такім чынам кваліфікуюць журналісты дзеяньні міліцыянтаў, якія 27-га ліпеня ўзламалі дзьверы кватэры, арэндаванай "Вольным горадам". *(Мы неаднаразова распавядалі пра тыя падзеі ў газэце – "ТМ").* Каля трох месяцаў спатрэбілася пракуратуры, каб разгледзець заяву рэдактара выданьня Сяргея Няроўнага і ягонага намесьніка Вадзіма Стэфаненкі.

На афіцыйным блянку пракуратура паведамляе, што міліцыянты толькі "прадэманстравалі магчымасьць узлому дзьвярэй офіснага памяшканьня". Журналісты ў сваёй заяве, аднак, дакумэнтальна сьведчылі, што арэндаваная рэдакцыяй кватэра ня ёсьць офісам, а значыць – дзеяньні міліцыянтаў павінны кваліфікавацца адпаведна. Да таго ж адказ падпісаны пракурорам, якога ў крычаўскай пракуратуры цяпер няма (пайшоў на павышэньне?).

І яшчэ адзін адказ атрымалі супрацоўнікі незалежнага выданьня – зь Вярхоўнага суду. Ён прадаставіў рэдакцыі адтэрміноўку па выплаце штрафу за парушэньне дэкрэту №8. Нагадаем, што ён рэгулюе (што супярэчыць іншым нормам заканадаўства) пытаньні атрыманьня замежнай гуманітарнай дапамогі й распараджэньня ёю. Менавіта праз яе рэдакцыя "ВГ" мела кампутар, які міліцыянты сканфіскавалі. Адказ зь Вярхоўнага суду не закранае, аднак, галоўнага пытаньня: ці будзе вернутае рэдакцыі канфіскаванае абсталяваньне.

***Алесь СЕРДЗЮКОЎ***

## Далучайся да жывога ланцугу!

У Беларусі не спынілася кампанія "Хочам ведаць праўду". 9-га сьнежня ад 15-й да 16-й гадзіны па шмат якіх гарадах краіны працягнецца "Ланцуг неабыякавых людзей".

За апошнія два гады ў Беларусі былі гвалтоўна выкрадзеныя й зьніклі былы міністар унутраных справаў Юры Захаранка, віцэ-сьпікер Вярхоўнага Савету Віктар Ганчар, прадпрымальнік Анатоль Красоўскі й тэлежурналіст Зьміцер Завадзкі. Улады нічога не зрабілі, каб знайсьці іх.

## Нашы людзі ў Касове назіралі за выбарамі

***На днях з Касова вярнулася група праваабаронцаў, якія працавалі супэрвайзэрамі на выбарах у мясцовыя органы ўлады, што былі арганізаваныя пры падтрымцы ЭўраЗьвязу і Эўрапарлямэнту.***

Назіральнікі ў Касова накіроўваліся праз АБСЭ з большасьці краінаў Эўропы, а ўсяго іх было каля дзьвюх тысячаў чалавек. У адрозьненьне ад іншых краінаў, якія даслалі супрацоўнікаў афіцыйных выбарчых структураў, Беларусь была прадстаўленая Незалежнай грамадзкай ініцыятывай. Сярод яе прадстаўнікоў быў старшыня Магілёўскага аддзяленьня Праваабарончага цэнтру "Вясна" Аляксей Колчын, які распавёў пра асноўныя моманты сваёй працы на Балканах.

– На тамтэйшых выбарах статус "супэрвайзэраў" (па нашаму – назіральнікаў) быў вышэйшым за статус старшыняў выбарчых камісіяў. Супэрвайзэр нясе адказнасьць за ўвесь выбарчы працэс на выдзеленым яму ўчастку. Увогуле я, напрыклад, упершыню бачыў такія празрыстыя і справядлівыя выбары. Ніякіх парушэньняў на ўчастках не было.

Вельмі цяжка праводзіць нейкія параўнаньні з нашымі апошнімі выбарамі. Тэхнічна ў Касове ўсё было нашмат лепей арганізавана. Фальсыфікацыі, да слова, зрабіць было б, калі б хто й наважыўся, вельмі складана.

Сыстэма кантролю складалася з дзьвюх узроўняў: на выбарчым участку кожнаму на руку пырскалі спрэй, а пры ўваходзе руку правяралі спэцыяльнай лямпачкай, так што ня можна было двойчы патрапіць на ўчастак. 90-95% сьпісаў былі з фотаздымкамі выбаршчыкаў. Бюлетэні для галасаваньня былі выробленыя на пэрфарацыйнай паперы з сэрыйным нумарам, так што падмяніць іх практычна было немагчыма. На кожным бюлетэні ставіўся яшчэ й спэцыяльны штамп. Скрыні былі з празрыстага пластыку, так што ўвесь час было бачна, што ў іх робіцца. Пячаткі на скрынях былі не сургучовымі, як у нас (на апошніх выбарах нашы назіральнікі сустракалі пячаткі нават з плястыліну), а зацягваліся дроцікам з плёмбай, якая не здымалася. Зразумела, што ніякага папярэдняга галасаваньня не было: выбары працягваліся адзін дзень.

Касоўскія альбанцы да нас – замежных назіральнікаў – ставіліся вельмі добра, з павагай. Яны адчуваюць, што за іх заступіліся міжнародныя арганізацыі й абаранілі ад сэрбскіх рэпрэсіяў. На выбарчых участках ні паліцыі, ні войскаў не было.

У адной з маленькіх вёсачак многія жанчыны галасавалі пры дапамозе некага са сваякоў, бо, як высьветлілася, былі непісьменнымі (пра гэта, дарэчы, ставілася адпаведная паметка ў бюлетэні). А непісьменнымі яны былі з-за таго, што ў свой час байкатавалі сэрбскія школы – не хацелі атрымліваць "чужынскую адукацыю". Пры гэтым шмат хто з касоўскай моладзі ведае ангельскую мову, якую вывучалі нягледзячы на вайну.

Гэта была першая практыка беларускіх незалежных назіральнікаў у міжнароднай місіі. На ўласныя вочы пабачылі мы нармальнае функцыянаваньне выбарчага працэсу. Цяпер, набыўшы вопыт, будзем рыхтавацца да будучых беларускіх выбараў.

***Паводле BARC-news***



# Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

У Бабруйску знойдзены забіты мужчына, на якім пазьнейшая судмэдэкспэртыза выявіла больш 300 (!) нажавых ран. Забойцамі, як высьветліла сьледзтва, былі 13-ці і 15-гадовы хлопчыкі. Яны распавялі, што выпілі разам з мужчынам, а потым пасварыліся зь ім... Найжудаснае тут – ня толькі сама падзея, але й узрост забойцаў. Афіцыйная статыстыка сьведчыць, дарэчы, менавіта пра рост дзіцячай злачыннасьці. У грамадзтве, якое разбуранае крызысам, дзе ўлада выразна займаецца зьнішчэньнем маральных каштоўнасьцяў, падобныя факты ня робяць ужо, як падаецца, моцнага ўражаньня на людзей. Ёсьць пра што задумацца, ці ня праўда?..

Абанэнцкая запазычанасьць за спажытую электраэнэргію ў вобласьці, паводле галоўнага інжынэра "Магілёўаблэнэрга" М.Булыгі, складае 100 мільярдаў рублёў. Калі раней лідэрам тут была Вёска, то цяпер і горад "рвецца" наперад. Запазычанасьць прамысловых прадпрыемстваў узрасла ў 2,6 разы. Увогуле, у вобласьці на сёньня аплочваецца толькі 80% спажытай электрычнасьці. І больш паловы аплочваецца не грашыма, а бартэрам, што яшчэ больш узьнімае ейны сабекошт. На сёньня, трэба зазначыць, уладныя пастановы пазбаўляюць энэргетыкаў права – у большасьці выпадкаў – "адключаць" тых, хто ня плоціць. А тое ж "Хімвалакно", напрыклад, мусіць аддаць амаль 10 мільярдаў рублёў, завод імя Куйбышава – больш за 5 мільярдаў... Маюць велізарную запазычанасьць (каля $1 млн.) і самі энэргетыкі, якія вымушаныя браць крэдыты, каб набываць паліва. У хуткім часе, па словах М.Булыгі, дзейнасьць "Магілёўэнэрга" можа быць цалкам паралізаваная, бо не стае грошай нават на рамонт састарэлага абсталяваньня.

Гандлёвыя ўстановы Магілёва парушаюць адпаведныя санітарныя нормы. Такая высьнова напрошваецца пасьля паведамленьня галоўнага доктара гарадзкога цэнтру эпідэміялёгіі і гігіены В.Шуляка. Падчас праверкі ўва ўсіх крамах і шапіках штосьці ды знаходзілі: альбо ў іх ня робяць прыборкі, альбо дрэнна захоўваюць прадукты, альбо прадаюць пратэрмінаваныя. Цягам году 200 чалавек былі прыцягнутыя да адказнасьці за падобныя ды іншыя парушэньні. 14 крамаў проста зачынілі, а ў 20-ці зьменшылі асартымэнт тавараў, каб не рызыкаваць здароўем пакупнікоў. На жаль, пакуль няма рынкавай канкурэнцыі, наш гандаль такім і застанецца.

На апошнім паседжаньні гарвыканкаму абмяркоўваліся вынікі году. Паводле шматлікіх выступаў чыноўнікаў, вынікі гэтыя надзвычай станоўчыя. Аказваецца, у нас і электраэнэргія эканоміцца (аж на 16% больш за мінулагодніх паказчыкі), і бартэр на чвэрць зьменшыўся, і рост вытворчасьці заўважаны. Але ёсьць, зразумела, так званыя "некаторыя аб'ектыўныя недахопы". Зазначу ад сябе, што за гэтым азначэньнем хаваюцца якраз сапраўдныя паказчыкі гаспадарчага стану. У прыватнасьці, колькасьць стратных прадпрыемстваў з ранейшых 25% сягнула амаль да 40%. Прыбыткі прадпрыемстваў у параўнаньні зь мінулым годам зьменшыліся на 30 мільярдаў рублёў. А на складах у нас захоўваецца звыш 80% месяцовага аб'ёму выпушчанай прадукцыі! Падчас паседжаньня былі прапанаваныя й меры, каб паказчыкі палепшыць. Напрыклад, ня ўлічваць у справаздачнасьць тыя прадпрыемствы, што працуюць нестабільна, але маюць вялізныя абароты. Тады й некаторыя лічбы можна будзе выправіць...

Як паведаміў дэпутат "палаты" Валеры Ліпкін, у праекце бюджэту на наступны фінансовы год скасоўваюцца выплаты жыхарам раёнаў, дзе радыяцыйнае забруджваньне складае ад 1-го да 5-ці кюры. Маўляў, у дзяржавы няма грошай. Выглядае, што людзей падштурхоўваюць перабірацца туды, дзе яшчэ горш. Бо ў "чыстыя" раёны не пераедзеш: жытла няма, і працы ніхто асабліва не прапануе, і сур'ёзных "пад'ёмных" ня будзе. Як можна назваць уладу, якая праводзіць падобную палітыку – хай вырашаць чытачы.

*Да сустрэчы праз тыдзень,*
*Сымон Глазштэйн.*



# Хоць у нечым прызёры...

***Паводле дадзеных World Prison Population List, у разьвітых краінах на 100 тыс. чалавек прыпадае 105 зьняволеных, у бедных краінах – 130.***

Найбольш зьняволеных у сьвеце ў Расеі – 690 чалавек на 100 тыс. насельніцтва. На другім месцы – ЗША, а ўжо на трэцім – Беларусь. Потым у сьпісе пазначаны Казахстан, а за ім – Кайманавы выспы.

Паводле іншых зьвестак, якімі валодаюць экспэрты ААН, у бедных краінах нашмат больш высокі недавер да праваахоўных органаў. Калі прыкладна 97% жыхароў багатых дзяржаваў заўсёды б паведамілі сваю паліцыю аб злачынствах, сьведкамі якіх яны былі, то аналягічныя ўчынкі гатовыя зьдзейсьніць толькі каля 40% жыхароў дзяржаваў зь сярэднім узроўнем пражываньня й 38% грамадзянаў слаба разьвітых (зазвычай недэмакратычных) дзяржаваў. Прычыны такога недаверу – некампэтэнтнасьць і вялікая карумпаванасьць праваахоўных структураў і шчыльныя іхныя повязі з крымінальнікамі.

Ёсьць, дарэчы, выключэньні: напрыклад, больш за 80% кітайцаў давяраюць сваім "органам". Што да нашай краіны, то паводле дадзеных ААН 20% жыхароў Рэспублікі Беларусі маюць давер да мясцовых праваахоўных органаў. І гэты паказчык – вышэйшы сярод краінаў былой савецкай імпэрыі!

*Паводле матэрыялаў Прадстаўніцтва ААН у Беларусі*

ГУТАРКІ НА ХВАЛЯХ "СВАБОДЫ"

# ...Пра няўлоўнага каўбоя

***Шмат каго ў нашай краіне раздражняюць і нават палохаюць захады Белага Дому і Крамля да ўзаемнага збліжэньня. Ясна, чаму менавіта падобным чынам ставяцца да расейска-амэрыканскіх пэрспэктываў камуністы, патрыёты савецкай загартоўкі. Але нядаўна давялося прачытаць аб непрыяцьці такога збліжэньня ў артыкуле вядомага маскоўскага публіцыста, які безумоўна вызнае сябе за чалавека дэмакратычных поглядаў, аднак пры гэтым выступае абаронцам цяперашняй беларускай антызаходняй палітыкі і рыторыкі...***

***Уся справа ў тым, што і гэтага публіцыста, і шмат каго яшчэ хвалюе, ці будзе Масква й надалей выступаць адвакатам Лукашэнкі, калі сапраўды пойдзе шляхам збліжэньня з Амэрыкай на карысьць дэмакратыі, правоў чалавека і гарманізацыі адносінаў. Што тады рабіць "саюзнай" Беларусі?***

***Днямі гутарка на гэтую тэму прагучала на хвалях радыё "Свабода". У ёй прынялі ўдзел дырэктар маскоўскага Цэнтру стратэгічных дасьледаваньняў Андрэй Піянткоўскі й менскі палітоляг Уладзімер Роўда. Мы адаптавалі дыскусію да парамэтраў "ТМ".***

*– Як, на Вашую думку, паўплывае амэрыканска-расейскае збліжэньне на сытуацыю ў Беларусі?*

**Піянткоўскі:** Мне здаецца, што ў кароткатэрміновым, тактычным пляне збліжэньне Расеі і Захаду можа мець нават нейкія станоўчыя наступствы для рэжыму Лукашэнкі, таму што на штосьці амэрыканцы будуць проста заплюшчваць вочы. Бо з кожным днём усё больш зразумела, што Расея становіцца ўсё больш важным ваенным саюзьнікам для апэрацыі ў Цэнтральнай Азіі, саюзьнікам, безь якога посьпех антытэрарыстычнай кааліцыі немагчымы. Але ў доўгатэрміновым пляне збліжэньне Расеі і ЗША можа аказацца фатальным для рэжыму Лукашэнкі. Гэтае збліжэньне носіць даволі сур'ёзны характар. Пуцін бачыць ужо зусім іншую карціну сьвету, у якой Захад разглядаецца як вельмі важны саюзьнік. І Лукашэнка пазбаўляецца свайго асноўнага дэмагагічнага козыра – што ён фарпост, які абараняе расейскія рубяжы ад "агрэсыўнага блёку НАТО".

**Роўда:** Мне ўсё ж здаецца, што збліжэньне ЗША і Расеі – зьява часовая, якая ня будзе мець доўгатэрміновых наступстваў. Зьвязана гэта ў першую чаргу з тым, што ЗША зараз безумоўна зьяўляюцца дзяржавай нумар 1 у сьвеце. Але ж Расея, на маю думку, не хацела б жыць у такім сьвеце. Пуцін на ўсе 100 адсоткаў выкарыстоўвае правалы, якія відавочныя і ў зьнешняй палітыцы ЗША, і ў выведвальнай дзейнасьці яе спэцслужбаў. І зараз ён проста выкарыстоўвае зручны момант. Так што я лічу, што ў доўгатэрміновым пляне будуць працягвацца тыя ж самыя стасункі суперніцтва паміж Расеяй і ЗША. Таму гэта ніяк не адаб'ецца на адносінах паміж лукашэнкаўскім рэжымам і Расеяй.

**Піянткоўскі:** Безумоўна, большасьць расейскай палітычнай эліты арыентаваная на такое суперніцтва, жыве ім. Але ёсьць такая кніга пра Пуціна нямецкага палітоляга Аляксандра Рара, называецца яна "Немец у Крамлі". Па-мойму, гэта вельмі дакладны назоў: ён Штольц, а не Абломаў. Я бачу, што ён прыйшоў да высновы, што гэтая канфрантацыя згубная для Расеі. Выяўляць нейкую барацьбу з насоўваньнем NATO, калі ёсьць цалкам сур'ёзныя і рэальныя пагрозы на поўдні і далёкім Усходзе?.. То бок я якраз мяркую, што гэта не кароткатэрміновы тактычны курс, а нейкі сур'ёзны стратэгічны крок.

*– Якую ролю зараз будзе выконваць Крэмль для беларускага кіраўніцтва?*

**Роўда:** Калі казаць пра стратэгічны курс Расеі, то Пуцін урэшце падтрымаў Лукашэнку на прэзыдэнцкіх выбарах, і наўрад ці будзе зараз мяняць гэты курс.

**Піянткоўскі:** Значэньне Беларусі і асабіста Лукашэнкі ў расейскай палітыцы будзе памяншацца ў кантэксьце новых дачыненьняў Расеі з Захадам. Я думаю, Масква будзе спакойна чакаць канца гэтага тэрміну Лукашэнкі й паступова выбіраць сабе новую фігуру на беларускай палітычнай арэне.

*– Ці могуць ЗША датусьціць цяпер, напрыклад, больш шчыльную інтэграцыю Беларусі з Расеяй?*

**Роўда:** Як мне здаецца, геапалітычна Захаду невыгодна было б, каб Беларусь стала часткай Расеі. Аднак такі сцэнар абдумваецца, і Пуцін, як "немец у Крамлі", праводзіць вельмі хітрую прагматычную палітыку паступовага праглынаньня Беларусі. І ў першую чаргу гэта робіцца ў галіне эканомікі, паколькі пасьля выбараў пайшлі даволі хуткія працэсы падрыхтоўкі да буйных прыватызацыйных праектаў з удзелам расейскіх фірмаў.

**Піянткоўскі:** Эканамічная экспансія – рэч дастаткова натуральная для ўсіх рэжымаў. Тут усё залежыць ад суаднасінаў сілаў мясцовага капіталу і розных замежных уплываў. Калі ж гаварыць пра цэнтральнае пытаньне – аб палітычнай незалежнасьці Беларусі, то гэтая незалежнасьць ужо стала незваротным чыньнікам і зьявай. Беларусь – гэта незалежная дзяржава, якая адбылася.

*Размаўляў Віталь ЦЫГАНКОЎ*





